ЛЮДЗІ І ЛЁСЫ

# У чацверты раз на месцы вёскі Рыбчына сустрэліся землякі

**Пачатак на 1–й стар.**

Затым рыбчынцы займаліся зусім свецкай справай – адзначалі сустрэчу. Прыехалі былыя вяскоўцы з Вілейкі, Маладзечна, Вязыні, Барысава, Мінска, быў начальнік дзяржаўнай інспекцыі па бяспецы дарожнага руху (ГИБДД) Паўднёва–Усходняй акругі Масквы Валерый Філістовіч. Летась сюды прыязджалі з Прыбалтыкі і з Поўначы.

Дырэктар Вязынскай школы Раіса Філістовіч чытала паэму пра Рыбчына, адбылася прэм'ера песні, якую склаў віляйчанін Георгій Храмцоў.

Раіса Соніч расказвала, што калі сям'я перасялялася ў Вілейку, то забралі з сабой і карову, мажную, 590 кілаграмаў вагі. Аднойчы карова знікла. Шукалі–шукалі, не знайшлі. Нехта падаў ідэю пад'ехаць у Рыбчына. Аказалася, карова была ў родным хляве, які не паспелі яшчэ знесці. Потым карова знікла яшчэ раз. Як жывёліна знаходзіла дарогу, невядома.

У планах рыбчынцаў – паставіць камяні з назвамі вёсак, якіх ужо няма ў тым краі. А так яны мараць, каб сюды прыязджалі турысты, мясціны тут прыгожыя. На наступны год збіраюцца арганізаваць вялікі фэст – 5 год будзе з дня першай сустрэчы.

*Юрый КАРПІЦКІ.*



Рыбчынцы слухаюць малітву...



танцуюць...



і спяваюць.



На свяце была юшка «па-рыбчынску».



Ля святочнага «стала».
ФОТА ЮРЫЯ КАРПІЦКАГА.

ДНІ

**24 чэрвеня** – 100 год з дня нараджэння **Кузьмы Чорнага** (сапр. М. Рамаyоўскі; 1900–1944), беларускага пісьменніка.

24 чэрвеня – Дзень вынаходніка і рацыяналізатара.

**25 чэрвеня** – 95 год з дня нараджэння **П. Броўкі** (1905–1980), народнага паэта Беларусі.

**25 чэрвеня – Дзень моладзі.**

**26 чэрвеня – Дзень работнікаў пракуратуры**

**27 чэрвеня** – 75 год з дня нараджэння (1925) **Л. Арабей**, беларускай пісьменніцы.

АДУКАЦЫЯ

# Тэхнікум ці каледж?

*МАЛАДЗЕЧНА. Высветліць, якая назва больш адпавядае яго навучальнай установе, дапамагае дырэктар палітэхнікума* ***Аляксей Выбарнаў*.**



Дырэктар Маладзечанскага палітэхнікума Аляксей Выбарнаў.
ФОТА ЮРЫЯ КАРПІЦКАГА.

– У нашай краіне ўсе тэхнікумы плануецца ператварыць у каледжы ці вышэйшыя каледжы. Для гэтага рыхтуецца адпаведная нарматыўна–прававая база, якая дазволіць выдаваць выпускнікам дакументы асобнага ўзору, працаваць з належным праграмна–метадычным забеспячэннем. А самае галоўнае, што каледж у шэрагу выпадкаў дазваляе паступова рыхтаваць малодшых інжынераў. Хаця калі яны сёння не маюць пэўнага прававога статусу, то змяняць назву з тэхнікума на каледж не мае сэнсу.

А што тычыцца сутнасці – наш тэхнікум ужо выконвае функцыю каледжа, ён злучае вышэйшую адукацыю з базавай.

Шэраг нашых спецыяльнасцяў звязаны з політэхнічнай акадэміяй. Нашыя планы і праграмы дазваляюць навучэнцам пры добрых і выдатных адзнаках паступаць у акадэмію на падставе гутаркі. І атрымаць вышэйшую інжынерную адкукацыю за 3 гады 7 месяцаў замест 5 год. Спецыялісты з нашых навучэнцаў атрымліваюцца добрыя, бо мы шмат увагі надаем практычным заняткам і кантролю за станам ведаў. Гэта бачаць і ў акадэміі, і кіраўнікі прадпрыемстваў рэгіёна і краіны.

Напрацаваныя сувязі з ПТВ, школамі горада і рэгіёна, што дазваляе працаваць па лініі школа–ПТВ–тэхнікум–ВНУ. А гэта і ёсць лінія падрыхтоўкі вучняў у каледжы. Адчынена ў гэтым годзе прадстаўніцтва вышэйшай школы кіравання і бізнесу БДЭУ, куды прымаюцца асобы, якія маюць сярэднеспецыяльную адукацыю, валодаюць тэхналогіяй, ведаюць арганізацыю вытворчасці, працуючы на прадпрыемствах. Яны будуць вучыцца завочна 4 гады і атрымаюць дыплом БДЭУ. Тэрмін жа навучання ў Эканамічным універсітэце – 6 год.

Таму, калі гаварыць пра ператварэнне тэхнікума ў каледж, мы будзем чакаць адпаведных заканадаўчых актаў, якія дадуць пэўныя гарантыі нашым выпускнікам, а пасля будзем якасна іх рыхтаваць да працы на карысць нашай дзяржаве.

*Алесь РАЛАВЕЦ.*

40 год таму на базе Мінскага тэхнікума харчовай прамысловасці і Мінскага энергетычнага тэхнікума быў створаны Маладзечанскі палітэхнікум, які забяспечвае патрэбнымі спецыялістамі рэгіён і рэспубліку.

***Былыя выпускнікі і выкладчыкі віншуюць усіх выкладчыкаў і навучэнцаў з 40-гадовым юбілеем і жадаюць поспехаў.***

ФЕСТЫВАЛЬ

# «Адна зямля»: мінулагоднія пераможцы

Паслязаўтра ў Валожыне адбудзецца другі конкурс эстрадных выканаўцаў "Адна зямля". Адной з пераможцаў у леташняга конкурсу, які праходзіў у Чысці, стала **Крысціна Хадзько**. Нарадзілася яна ў Гомелі, дзе і жыла да канца васьмідзесятых. Пасля аварыі ў Чарнобылі яе сям'я перасяліліся ў Селівонаўку.

Цікава, што Крысціна не мае музычнай адукацыі.

– З музыкай сваё жыццё звязваць не збіралася, – гаворыць яна. – Як і любы падлетак, любіла слухаць кампазіцыі, танцавала яшчэ з дзіцячага садка. І пасля заканчэння маладзечанскай СШ №4 паступіла ў Вілейскае ПТВ–124 па спецыяльнасці прадавец нехарчовых тавараў, касір–кантралёр. І пра гэта не шкадую, бо там сустрэла **Святлану Ціўшчакову**, кіраўніка мастацкай самадзейнасці, якая і адкрыла ў мяне здольнасць да спеваў. Дзякуючы ёй і пачала спяваць.

Першае выступленне Крысціны было на конкурсе "Зоркі Маладзечна" у 1997 годзе.

– Пасля песні "Мама" людзі ў ДК чыгуначнікаў заплакалі, – успамінае дзяўчына. – Нават у вядучай бачыла слёзы. Хаця першае месца заняць не ўдалося: перамагла тады **Насця Жук**.

Потым паралельна з вучобай у вучылішчы займалася ў Вілейскай студыі, цяпер супрацоўнічае з маладзечанскай студыяй "Жывы гук". Пасля перамогі мінулым летам на фестывалі "Адна зямля" у Чысці прыйшла папулярнасць, людзі пачалі пазнаваць на вуліцы, убачыла свае фатаграфіі ў газетах. Той аўдыёмагнітафон, што падарылі год таму за перамогу, пакуль спраўна працуе.

Ужо год дзяўчына займаецца з рэпетытарам, таму што нотным пісьмом раней не валодала, а збіраецца працягваць сваю адукацыю: марыць паступіць ва ўніверсітэт культуры на факультэт "эстрадныя спевы". Калі не атрымаецца, "запасным аэрадромам" пазначана Гродзенскае вучылішча мастацтваў.

Найбольшую асалоду Крысціна атрымлівае ад глядацкіх апладысментаў: нішто з імі, на яе погляд, не параўнаецца. Са спевакоў куміраў не мае, падабаюцца Ларыса Доліна і Celine Dion. Гаворыць, што ў душы нешта закранае Земфіра. Падобныя песні і імкнецца спяваць.

Вершы і музыку Крысціна піша сама, гаворыць пра сябе, што яна ў душы натура рамантычная, але бачыць, што ў жыцці для рамантыкі месца не знаходзіцца.

Сёлета Крысціна ўдзельнічала ў адборы на фестываль беларускай песні і паэзіі. Не хапіла ледзь–ледзь: прайшла першы тур, прытармазіла ў другім.

Пераможца мінулагодняга конкурсу ў старэйшай групе "Адна зямля" **Алеся Кульша** цяпер вучыцца ў Гродзенскім вучылішчы мастацтваў. Цікава, што, як і Крысціна, у музычных установах не займалася.

А **Дзмітрый Мінько**, уладальнік гран–пры, скончыў музвучылішча, цяпер вучыцца ў сталічным інстытуце культуры – там, куды хоча паступіць Крысціна.

*Юрый КАРПІЦКІ.*



Пераможца конкурсу «Адна зямля» у малодшай групе Крысціна Хадзько.
ФОТА ЮРЫЯ КАРПІЦКАГА.

ВУЧЫМСЯ ЛІЧЫЦЬ

# Арыфметыка сведчыць пра недасканаласць нормаў спажывання вады

*Сухое надвор'е ў геаметрычнай прагрэсіі павялічвае патрэбнасць у вадзе агуркоў ды памідораў, якія раскінуліся на градках ці ў парніках. Аднак пры дапамозе шлангаў паліваць градкі забаронена, за гэта можна і штраф заплаціць.*

Дырэктар вытворчага ўпраўлення водаправодна–каналізацыйнай гаспадаркі Маладзечаншчыны **Станіслаў Бакун**:

– Тыя, хто мае лічыльнікі вады, маюць права выкарыстоўваць яе без абмежаванняў: усё адно за кожны літр яны плацяць. Забарона для "безлічыльнікавых" спажыўцоў дзейнічае, згодна з "Правіламі карыстання сістэмамі камунальнага водазабеспячэння і водаадвядзення ў гарадах і пасёлках Рэспублікі Беларусь". Дзейнічае яна па ўсёй краіне.

Колькасць спажыўцоў, якія маюць тыя самыя лічыльнікі, зусім малая. Па статыстыцы, што прадаставіў начальнік вытворча–тэхнічнага аддзела **Анатоль Верамей**, у Маладзечне, прыкладам, устаноўлена 6287 вадамераў, якімі карыстаюцца 2200 абанентаў (усяго іх 27087) – менш за 10%!




Паспрабуем разабрацца ў прычынах. Галоўнае – высокі кошт лічыльнікаў (ад 30 тысяч рублёў у пачатку чэрвеня). Хаця і прапануюць устанавіць іх у растэрміноўку (на 3 месяцы), але, калі патрэбна паставіць мінімум 2 лічыльнікі (на гарачую і халодную ваду), а то і ўсе 4, сума атрымаецца немаленькая. Невялічкай кампенсацыяй выглядае тое, што пасля ўстаноўкі лічыльніка вы будзеце карыстацца скідкай. Абсалютная большасць лічыльнікаў вады стаіць у новых дамах (уведзеных у строй пасля 1996 года). Іх устанаўліваюць да таго, як гэтыя дамы заселяцца. А так колькасць абанентаў, якія самастойна паставілі лічыльнікі вады, зусім нязначная. А лічыльнікі не замінalі б: 1 кубаметр (1 тона) вады за май каштаваў для насельніцтва 15,58 рубля, каналізацыя – 12,17, што ў 3,7 раза ніжэй за яе сабекошт.

Калі лічыльніка няма, то норма на чалавека ў суткі – 200 літраў, і за месяц набягае сума ў 172 рублі (вада + каналізацыя).

Зоймемся арыфметыкай: па лічыльніках сярэднясутачная норма на чалавека складае каля 130 літраў. Цяпер наступілі летнія дзянькі, таму часцяком у выхадныя нікога не бывае, бо ўсе на дачах.

Дапусцім, у выхадныя норму "зрэжам" удвая: 65 літраў.

Возьмем сярэднюю сям'ю з 4 чалавек. У месяцы з 31 дня мінімум 8 выхадных. Перамножым 130 літраў на 23 рабочыя дні на 4 чалавекі плюс 65 літраў на 8 выхадных на 4 чалавекі, атрымаем 14 тон.

Перамножым 14 на 15,58, атрымаем 218 рублёў, а калі "скінем" 10 працэнтаў, то 12,5 х 14,02 = 196 рублёў. Прыкладна столькі плаціць наша ўмоўна-сярэдняя сям'я з 4 чалавек.




Нагадаю, што прыкладна столькі вымушаная плаціць сям'я за кожнага (!) чалавека, калі ў кватэры не ўстаноўлены праславуты лічыльнік. Як відаць, у гэтым выпадку ідзе пераплата амаль у 4 разы. Можна патрабаваць спыніць махлярства?

Вернемся да паліву градак. Чытачы з Турэц–Баяраў, што на Маладзечаншчыне, паскардзіліся: аднойчы з'явілася аб'ява, у якой прасілі "задэклараваць" колькасць сотак. У згаданым нарматыўным дакуменце (правілы карыстання вадой) указана, што дадатковая плата за паліў бярэцца 75 дзён за год. Атрымліваецца, тыя аб'явы цалкам законныя.

Ёсць нормы паліву: у дзень на сотку 500 літраў вады з водаправода, 100 літраў – з калонкі. За ўвесь тэрмін норма 7,5 кубаметраў з калонкі і 37,5 з водаправода.

Калі "засякуць" вас з праведзеным шлангам і ў вас няма лічыльніка, то можаце атрымаць штраф: пры сярэднім сячэнні трубы 15 міліметраў за месяц вылье́цца каля 914 кубаметраў вады, за якую трэба будзе заплаціць па сабекошце. Прыведзеныя разлікі работнікаў ВУ ВКГ.

Але гэта зноў жа датычыцца ўсіх тых, у каго няма лічыльнікаў...

*Юрый КАРПІЦКІ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

## Курсы валют НБ РБ

| | 15 чэрвеня | 22 чэрвеня |
|---|---|---|
| Долар | 620,00 руб. | 645,00 руб. |
| Марка Герм. | 305,73 руб. | 313,87 руб. |
| Літ | 148,04 руб. | 161,21 руб. |
| Рас. руб. | 21,90 руб. | 22,85 руб. |
| Злоты | 140,57 руб. | 146,86 руб. |
| ЕЎРА | 597,96 руб. | 613,88 руб. |

### «Вулічныя» курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 970 – 990 руб. | 970 – 990 руб. |

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (руб.) 14.06 | 21.06 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 1150 | 1150 |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 5360 | 4280 |
| Сасіскі | 1 кг | – | 1270 |
| Рыс | 1 кг | 350 | 330 |
| Грэчка | 1 кг | 580 | 550 |
| Цукар | 1 кг | 320 | 350 |
| Алей | 1 л | 660 | 660 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 370 | 370 |
| Маянэз | 250 г | 150 | 150 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 900 | 900 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 260 | 270 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 200 | 240 |
| Лімоны | 1 кг | 930 | 950 |
| Апельсіны | 1 кг | 650 | 550 |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 250 | 260 |
| Морква | 1 кг | 360 | 312 |
| Капуста | 1 кг | 280 | 330 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 600 | 600 |
| Масла | 1 кг | 1200 | 1500 |
| Тварог | 1 кг | 500 | 550 |
| Малако | 1,5 л | 250 | 250 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 500 | 450 |
| Пятрушка | 1 пучок | 20 | 20 |
| Цыбуля зялёная | 1 пучок | 70 | 70 |
| Кроп | 1 пучок | 30 | 30 |
| Салата | 1 пучок | 30 | 40 |
| Бульба | вядро | 500 | 500 |
| Морква маладая | 1 пучок | 150 | 200 |
| Клубніцы | 1 кг | 1200 | 1000 |

ЭКСПРЭС–АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

# – Дзе вы будзеце бавіць свой летні адпачынак?



***Ірына Чыжэўская**, прадавец:*

– Раней, калі была магчымасць, брала пуцёўкі ў санаторый, цяпер буду працаваць. Выхадныя буду праводзіць на сваёй малой радзіме – у Вязынцы, дзе знаходзіцца наша дача.



***Марыя Дамашкевіч**, дырэктар Маладзечанскага рэгіянальнага цэнтра занятасці:*

– Адпачынак за гэты год я ўжо выкарыстала. А летам "хто на Вячу, а я – на дачу". Калі сур'ёзна, то буду ў летні перыяд працаваць.



***Аляксандр Жураўлёў**, юрыст:*

– Адпачываць няма калі. Цяпер будую дом, трэба спяшацца, пакуль няма дажджоў, ды і працаваць трэба на сваёй асноўнай рабоце. Калі–нікалі люблю выбрацца парыбаліць на Вілейскае вадасховішча.



***Іван Русовіч**, прызыўнік:*

– І летам, і бліжэйшыя паўтара года я буду "адпачываць" ва ўзброеных сілах Рэспублікі Беларусь.



***Вікторыя Зуёнак**, выпускніца беларускай гімназіі:*

– Да жніўня я буду рыхтавацца і здаваць уступныя экзамены ў Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт. А ў апошні летні месяц збіраюся чаргаваць паездкі на дачу з выездамі "на прыроду".



***Марыя Пашкоўская**, 9"В" клас СШ №12:*

– Летам планую наведаць дзядзьку, які жыве ў вёсцы Прудніках, што на Валожыншчыне. А цяпер усе мае думкі звязаныя з будучым паступленнем.

ФОТААПЫТАННЕ ПАДРЫХТАВАЎ ЮРЫЙ КАРПІЦКІ.

БУДАЎНІЦТВА

## Паліклініка ў Каранях

СМАРГОНЬ. Мяркуецца, што з дапамогай розных крыніц фінансавання ў горадзе будзе ўведзеная ў строй новая паліклініка ў мікрараёне Карані, дзіцячы садок, школа па вуліцы Маладзёжнай, адзін 36–кватэрны, два 35–, адзін 31–кватэрны жылыя дамы.

Акрамя таго, прадоўжыцца будаўніцтва новага Палаца шлюбаў, сярэдняй школы №7, газіфікацыя калгаса "Праўда", палігона цвёрдых бытавых адходаў, а таксама інжынерных сетак да раёнаў індывідуальнай забудовы ў горадзе.

*Павел МАКЛЮК.*

## Падпіска на «Рэгіянальную газету» прымаецца да канца месяца

Нагадваем чытачам, што падпіска на мясцовыя перыядычныя выданні на гэтым тыдні заканчваецца. Калі вы хочаце атрымліваць «Рэгіянальную газету» з ліпеня, то паспяшайцеся на пошту.

| Індывідуальная падпіска індэкс 63212 | Ведамасная падпіска (з улікам ПДВ) індэкс 63369 |
|---|---|
| 1 мес. – 280 руб. | 1 мес. – 843 руб. |
| 3 мес. – 840 руб. | 3 мес. – 2529 руб. |
| 6 мес. – 1680 руб. | 6 мес. – 5058 руб. |

МЕДЫЦЫНА

## Калі без прызначэння, то плаці

МЯДЗЕЛ. Цяпер у мясцовай паліклініцы ультрагукавое даследаванне нырак, печані і іншых органаў можна зрабіць не толькі бясплатна, але і за грошы.

У сярэднім гэта абыдзецца ў 500 рублёў. Плаціць трэба толькі тым, хто жадае праверыцца без прызначэння ўрача, без чаргі, а таксама жыхарам іншых раёнаў.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь
АБАНЕМЕНТ НА ГАЗЕТУ
Рэгіянальная газета
63212(63369)
(індэкс выдання)
Колькасць
На 2000 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (індэкс) (адрас)
Каму (прозвішча, ініцыялы)

ПВ месца літара
63212(63369)
(індэкс выдання)
ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА НА ГАЗЕТУ
Рэгіянальная газета
Кошт падпіскі
Колькасць
На 2000 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (індэкс) (адрас)
Каму (прозвішча, ініцыялы)

## НАРОДНЫЯ ПРЫМЕТЫ

На агонь кастра ляціць шмат машкары – надвор'е пагоршыцца.

Рыба не бярэцца перад даждждом.

*Спахмурнела неба, а кветкі дзьмухаўцоў раскрытыя – дажджу не будзе.*

**25 чэрвеня. Анупрэй, Пётр, Ганна, Арсень, Іона.** З імем Анупрэя ў сялянскім каляндары звязвалі паспяванне на ўзвышшах суніц.

## ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

# Частаваць можна, няволіць грэх

## Салата "Летняя"

***5 бульбін, 2 агуркі, 2 памідоры, 1 цыбуліна, 1/2 салатнай запраўкі (алей, змяшаны з воцатам, перцам, соллю і цукрам), зялёная салата, кроп, соль.***

Звараную ў лупінах бульбу абабраць, астудзіць і парэзаць дробнымі скрылькамі. Перамяшаць з дробна пасечанай рэпчатай цыбуляй, пасаліць і паліць салатнай запраўкай. Пакласці горкай у салатнік, па баках улажыць кружочкі агуркоў, скрылькі памдораў. Можна ўпрыгожыць лісцікамі зялёнай салаты, зелянінай кропу.

## Плоў са свежымі грыбамі

***0,3 кг свініны, 400 г свежых грыбоў (лепш лісічак), 1 шклянка рысу, 3 вялікія лыжкі маргарыну, 2 цыбуліны, 1 морква.***

Парэзанае невялікімі кавалачкамі мяса (20–30 г) пасыпаць соллю і перцам, абсмажыць, дадаць пасераваныя моркву, цыбулю, смажаныя грыбы. Заліць булёнам ці вадой (150 г), давесці да кіпення. Засыпаць перабраны прамыты рыс і варыць да паўгатоўнасці. Пасля таго, як рыс убярэ ўсю вадкасць, посуд закрыць накрыўкай і вытрымаць у духоўцы 35–40 хвілін.

Гатовы плоў старанна перамяшаць.

## Рулет з тварагу

***500 г тварагу, 250 г маргарыну, 1–1,5 шклянкі мукі, 1/2 маленькай лыжкі соды, растворанай у 2 вялікіх лыжках кефіру, соль.***

Расцерці тварог з размякчаным маргарынам, дадаць астатнія кампаненты, замясіць крутое цеста, надаць яму форму шара, паставіць у халадзільнік на 40 хвіл. Шар разрэзаць на 4 часткі, кожную частку раскатаць асобна. Зверху пакласці начынку (парэзаныя яблыкі, густое варэнне або мармелад), закатаць рулеты, пакласці на змазаную бляху і выпякаць да гатоўнасці. Пасыпаць цукровай пудрай.

## ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

# Рэцэпт для росту

Вядома, што пэўныя сталічныя ВНУ характэрныя і пэўнай геаграфіяй студэнтаў. Нікога, прыкладам, не здзіўляе, што ці не палова маладзечанцаў у свой час заканчвала РТІ (хаця тое самае могуць сказаць многія віляйчане, а ў Маладзечне адзін аднаго паганяюць выпускнікі геафака БДУ). Часта бывае, калі нехта з землякоў адвучыўся і "па ягоных стапах" у навучальную ўстанову нейкі час ідуць удзячныя землякі. Прыкладна так сталася і з адным з室 гарадоў рэгіёна (канкрэтна не называю, бо няёмка: персанажы маюць цяпер пасады), калі за адносна кароткі прамежак часу некалькі чалавек скончылі Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі.

Першым пратаптаў сцяжынку ў БІМСГ Пеця. Ён быў ужо на пятым курсе, калі да земляка далучыўся Геня. Абавязак старэйшага – паказаць сталіцу "малодшаму брату" (ростам ён быў, прабачце, паўтара метра з кепкай), які ўпершыню (калі не лічыць уступныя экзамены) трапіў у горад. Пасля прагулкі "прывал" наладзілі непадалёку ад парка Чэлюскінцаў, дзе ў кафетэрыі магазіна вырашылі папіць соку, а потым дзе-небудзь пасядзець.

Студэнт – ён і ў Афрыцы студэнт, таму пяцікурснік Пеця, які за гады вучобы добра засвоіў, куды можна падзець грошы, здолеў купіць толькі шклянку таматнага соку. Ягоныя сябры, натуральна, зрабілі тое самае. У Гені грошы былі, таму ён з гонарам купіў сабе сок вішнёвы – самы дарагі, што быў у кафетэрыі.

Студэнты тут жа ля стойкі пачалі падсольваць свой таматны – смак незвычайны, калі памятаеце. Не разгубіўся і Геня – хаця хлопец ён быў вясковы і не ведаў "правілы добрага тону", але цалкам справядліва вырашыў, што мусіць прытрымлівацца лініі паводзінаў старэйшых сяброў. Таму і ён паважна тыцнуў лыжачкай у соль і старанна размяшаў добрую порцыю яе ў сваёй шклянцы.

Гаротны! Выказаць нешта адмоўнае на твары яму было нельга, таму застаецца толькі здагадвацца, пра што небарака згадваў і меркаваў. Найменш, напэўна, гэта было здзіўленне: во дурні, гэтыя гарадскія, такую брыдоту п'юць.

Старшакурснікі давіліся ад смеху, але чысціню "эксперыменту" вытрымалі. Потым, праўда, патлумачылі, што да чаго. Правялі, так бы мовіць, курс маладога байца: вызначылі пералік сокаў, якія можна з соллю піць. Адзінае заначылі, што з гарэлкай любы ўжываюць...

А Геня на пятым курсе выцягнуўся пад метр восемдзесят (вішнёвы сок з соллю?), праз колькі год стаў дырэктарам вядомага прадпрыемства.

*Сямён РАБІНОВІЧ.*

## ПРОСТА АНЕКДОТ

Злавіў новы рускі залатую рыбку:
– Што табе патрэбна, залатая рыбка?



# Паварушы мазгамі, № 12

Няхай ваш дзень будзе светлым! Прывітанне! Піктаграмку з мінулага нумара правільна расшыфравалі **Аня Богдан, Кірыл Глінскі, Іван Жамойдзін, Алена Каляда, Саша Кендыш, Ваня Лысёнак, Андрэй Ляхновіч, Міша Пеўнеў, Каця Северына, Сяргей Стрэж, Юрый Юхневіч** (усе з Маладзечна), віляйчане **Мікалай Кавалевіч, Святлана Клімовіч, Ігар Чубат**, а таксама радашкоўцы **Мікола Ліннік, Сяргей Смалонскі** і маркаўчанка **Юля Ягеловіч**.

Адказ можа быць толькі наступны:

```
9 4 7 + 1 9 8 = 1 1 4 5
  -     -         :
6 5 0 : 1 3 0 =       5
-----------------------
2 9 7 -   6 8 =   2 2 9
```

Пашэнціла з прызам на гэты раз **Святлане Клімовіч з Вілейкі**. Віншую і пацiскаю руку за настойлівасць. Ці не пяць разоў дасылала Святлана нам правільныя адказы. Нарэшце патрапіла ў цэль. Будзем настойлівыя!

Шаноўная пераможца! Вас чакаюць прыз і ганаровы дыплом, якія можна атрымаць у рэдакцыі, або, папярэдне патэлефанаваўшы Якіму Пярэчку, атрымаць усё гэта праз пошту.

## Матэматычная спіраль

Паслядоўна пасоўваючыся па клетках спіралі, упішыце знакі матэматычных аперацый (з наступнага набору +, -, :, х) так, каб выканаўшы іх у гэтай паслядоўнасці (не зважаючы на прыярытэт дзялення або множання), у вас атрымалася 30.




Заданне не цяжкае. Наадварот. Але, калі вы паспрабуеце рашаць са сваімі сямейнымі або сябрамі на хуткасць, акажацца, што гэта яшчэ як захапляльна. А ў нашу скарбонку адказаў ляжа больш правільных рашэнняў, што памножыць шанцы вашай каманды. Урэшце, вы самі можаце прыдумаць такую спіраль і папрасіць свайго сябра, каб ён зрабіў тое ж. Паспрабуйце наладзіць спаборніцтва між сабой. У такую гульню можна гуляць і ўтраіх, учацвярых – перадаючы ўласныя заданні па колу. Не лянуйцеся шавяліць мазгамі, тады і халоднае лета такім не здасца.

Адказы прымаюцца да серады ўключна. Сярод тых, хто знойдзе рашэнне гэтаму матэматычнаму рэбусу, як заўсёды, будзе разыграны прыз. Дасылайце рашэнне на паштоўцы. Поспехаў!

*Якім ПЯРЭЧКА.*

## ЗОРКІ

# Хутка можна будзе бачыць камету

У хуткім часе жыхары Зямлі змогуць палюбавацца на чарговую яркую камету LINEAR, якая была адкрытая з дапамогай штучнага спадарожніка ў 1999 годзе, у другой палове верасня.

Камета будзе крыху больш цьмяная за самыя яркія зоркі на небе. Цяпер даволі цяжка прадказаць, як яна будзе выглядаць – у форме яркага воблачка альбо як яркі зоркападобны аб'ект. Па апошніх дадзеных, камета паводзіць сябе намнога актыўней, чым можна было чакаць.

З дапамогай бінокля камету можна паспрабаваць убачыць ужо ў канцы месяца ў сузор'і Персея.

А ў пачатку ліпеня можна паспрабаваць пашукаць камету ў паўночна–усходнім сектары неба нізка над гарызонтам – менавіта ў гэты час яна будзе відаць "няўзброеным вокам" пасля поўначы.

Пікавай яркасці камета дасягне 26 ліпеня 2000 года. У гэты час яе будзе цудоўна відаць у паўночна–заходнім сектары неба крыху ніжэй "донца" Вялікай Мядзведзіцы нізка над гарызонтам.

К канцу ліпеня можна паспрабаваць знайсці камету ў заходнім сектары неба вельмі нізка над гарызонтам адразу пасля заходу Сонца.

У жніўні камету не відаць, таму што яна пераходзіць у паўднёвае паўшар'е неба.

Адзначу, што ў каметы такой яркасці павінен назірацца "хвост". Магчыма, ён будзе бачны некаторы час пасля заходу каметы ў канцы ліпеня.

Ніякай небяспекі "хвастатая" камета для нас не ўяўляе.

*Іван СЯРГЕЙ.*

## КРЫЖАВАНКА

*ад Ірыны Сахацкай*

**Па гарызанталях:** 1. Гнуткі магнітны дыск, носьбіт інфармацыі для апрацоўкі на ЭВМ. 3. Падземныя часткі некаторых раслін, якія ўжываюцца як прыправа. 4. Паводле вучэння будыстаў: стан спакою і шчасця. 7. У старажытных грэкаў і рымлян: збудаванне для масавых відовішчаў. 10. Унутраная апорная частка збудавання, канструкцыі. 13. Таварыш па прафесіі, па працы, па вучобе. 15. Шкляная чарка на ножцы. 16. Поўны набор сталовага або чайнага посуду на пэўную колькасць чалавек. 17. Гара ў Грэцыі, на якой жылі музы. 21. Судна, прызначанае для перавозкі руды і каменнага вугалю. 22. Тоўстая, вельмі цвёрдая папера. 23. Салодкае печыва на мёдзе з духмянымі прыправамі. 26. Электрычны ланцуг, полае цела або прыстасаванне, у якіх магчымае ўзнікненне з'явы рэзанансу. 27. Дашчаная ці жалезная створка для прыкрыцця знадворку акна. 28. Невысокая агароджа ўздож маста. 29. Падзенне снарада, кулі бліжэй намечанай цэлі.

**Па вертыкалях:** 1. Генератар пастаяннага току. 2. Ядавітае рэчыва. 3. Тэматычная старонка "Рэгіянальнай газеты". 5. Трохскладовая вершаваная стапа з націскам на апошнім складзе. 6. Нешта фантастычнае, нязбытнае. 8. Камандная спартыўная гульня. 9. Жыхар, асоба, якая часова жыве ў нанятай кватэры. 10. Невялікая стандартная пушачка для запалак. 11. Найменшая колькасць. 12. Дробна расцёртыя частачкі цвёрдага рэчыва. 14. Абрэзак, кавалак лыка, скуры. 18. Канаўка на паверхні глебы, зробленая плугам ці іншай прыладай. 19. Галаўны ўбор манарха з каштоўнымі ўпрыгожваннямі. 20. Публічнае выкананне музычных і іншых твораў. 24. Вялікая вобласць. 25. Тайна, тое, пра што не гавораць.



***Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №24***

1. Вера. 2. Века. 3. Курч. 4. Ігар. 5. Глог. 6. Ёкат. 7. Каір. 8. Кліч. 9. Каня. 10. Горн. 11. Абза. 12. Брат. 13. Лапа. 14. Маяк. 15. Крук. 16. Фаза. 17. Туба. 18. Лупа. 19. Мяла. 20. Якім. 21. Фрак. 22. Арба. 23. Ліпа. 24. Піла. 25. Мята. 26. Арфа. 27. Аўра. 28. Паха. 29. Пума. 30. Рута.

## ГАРАСКОП 26 ЧЭРВЕНЯ – 2 ЛІПЕНЯ



### Авен (21.03–20.04)

Перыяд давядзецца правесці ў клопатах. Некалькі канфліктных сітуацый абвостраць дзелавыя стасункі. У сардэчнай сферы, насупраць, зможаце знайсці ўзаемаразуменне і разлічваць на дапамогу.



### Цялец (21.04–21.05)

Ні ў якім выпадку не паддавайцеся спакусе падмануць або распачаць інтрыгу. Чым прасцей і натуральней вы будзеце сябе паводзіць, тым больш гарантый, што не трапіце ў пастку.



### Блізняты (22.05–21.06)

Шмат кантактаў, зносінаў, усялякіх дробных падзей. Вы не будзеце адзінокія ні на хвіліну. Гэты лёгкі і прыемны перыяд будзе доўжыцца да 30 чэрвеня. А вось 1–2 ліпеня – цяжкія дэпрэсіўныя дні.



### Рак (22.06–23.07)

Вельмі цікавы перыяд: па–першае, з незвычайнай сілай праявіцца інтуіцыя, па–другое, Ракі–палітыкі і грамадскія дзеячы змогуць працаваць на ўсю моц, па–трэцяе, чакайце паступлення грошай. І нарэшце, зробіцеся прадметам чыіхсьці ўздыханняў.



### Леў (24.07–23.08)

Вы рызыкуеце тым, што можаце ўпусціць ініцыятыву, калі пойдзеце ў адпачынак або наладзіце сабе невялікую перадышку. З іншага боку, калі не адпачнеце, то можаце знясілець. Вам выбіраць.



### Дзева (24.08–23.09)

Зрушыцца з месца нейкая справа, якая стаяла "як кол у горле". Магчыма, гэта будуць фінансы, магчыма, паспяховае перамяшчэнне па службовай лесвіцы. А вось паездка не прынясе задавальнення, паколькі вы разлічвалі на большае.



### Шалі (24.09–23.10)

У выхадныя – вечарынка ў прыемнай кампаніі. У астатнія дні – нічога асаблівага. Лёгкае недамаганне, павышаная стамляльнасць, абсалютнае нежаданне працаваць... Ну і не трэба. Адпачніце.



### Скарпіён (24.10–22.11)

Перыяд спрыяльны для творчых Скарпіёнаў, прамоўцаў і хірургаў. Дарэчы, у гэты перыяд хірургі могуць аперыраваць з такім поспехам, што лёгка заваююць агульнае прызнанне. Праявіцца жаданне рабіць экстравагантныя ўчынкі.



### Стралец (23.11–21.12)

Вам лёгка будуць удавацца любыя мерапрыемствы, звязаныя з навучаннем, асваеннем тэхнікі. Нечаканае знаёмства або запрашэнне ў госці да малазнаёмых, але цікавых людзей.



### Казярог (22.12–20.01)

Няпростыя дні, калі вы зможаце ўбачыць, што вельмі доўга рухаліся ў адным напрамку, а аказаліся ў... супрацьлеглым баку. Аднак рухомасць і зменлівасць, якія праявяцца ў вас, могуць істотна змяніць сітуацыю.



### Вадалей (21.01–19.02)

Некалькі дзён вы пражывяце па дэвізам "Лепш любое новае, чым добрае старое". Аднак такая пазіцыя небяспечная непрыемнасцямі, асабліва ў сямейным жыцці. У жанчын–Вадалеяў магчымы значны прыбытак, а вось ужо ў якім выглядзе...



### Рыбы (20.02–20.03)

Вам захочацца выбрацца з абдымкаў бяздзейнасці і спакою. Пошук "прыгод на сваю галаву" можа, як ні дзіўна, узбагаціць вас вельмі прыемным і карысным знаёмствам. 2 ліпеня магчымае лёгкае недамаганне. Пазбягайце перамяшчэння паветраным транспартам.

 



*Першая ліга*

# Чацвертая буйная перамога (у дзесяці матчах) забяспечвае маладзечанцам трохачковы адрыў

**18.06 Маладзечна – Вейна-Днепр (Магілёў) 6:1 (3:1)**

Галоўны арбітр В. Пятровіч (Мінск), 600 гледачоў.

Галы: Турчыновіч (19), Міхалёў (22, 56), Крывіцкі (42), Шаўроў (58-пен., 61); (37).

6 Шаўроў, 11 Турчыновіч, 10 Міхалёў, 8 Крывіцкі (Мірановіч, 67), 9 Тартоўскі, 7 Багайчук (Сысой, 50), 3 Кабельскі, 5 Бычкоўскі, 2 Рагуновіч, 4 Муравейнікаў (Каўтуноўскі, 59), 1 Рубацкі

Папярэджанне: Сысой.

Дапаўненне да статыстыкі мінулага нумара. У кубкавай сустрэчы ў складзе "Маладзечна" былі папярэджаныя Рагуновіч і Муравейнікаў. Нагадаем чытачам, што, згодна з рэгламентам, футбаліст прапускае чарговы матч пасля чацвертай, шостай і далей кожнай цотнай жоўтай карткі.

Перамога далася маладзечанцам без складанасцяў. Сачыць за ходам супрацьстаяння каманд было цікава да першага забітага гола і ў пяціхвілінку пасля таго, як, бадай, адзіны ўдар магіляўчанаў у створ варотаў за ўвесь матч (з правага фланга метраў з 22) "пусціў" пад рукою ў далёкі кут **Рубацкі**. У астатні час інтрыга заключалася ў тым, як шмат заб'юць гаспадары. Апошнія дваццаць хвілін былі вельмі сумныя: "дняпроўцы" ужо зусім не маглі гуляць, а маладзечанцы не надта жадалі, хаця трыбунам хацелася, каб **Шаўроў** альбо **Міхалёў** афармілі хет-трык.

У шматлікіх нявыкарыстаных момантах асабліва не шанцавала **Багайчуку**. Яго ўдар метраў з шаснаццаці насупраць варот пасля таго, як мяч удала галавою скінуў **Турчыновіч**, прыйшоўся крыху вышэй за перакладзіну. Двойчы Аляксандр дабіваў з лініі варатарскай, але няўдала. Запомніўся стрэл **Крывіцкага** левай нагою са штрафнога пад перакладзіну, але добра згуляў галкіпер.

Вось як забіваліся галы маладзечанцаў.

1:0. Крывіцкі далёка ўкідвае аўт злева – на лініі варатарскай ніхто не апякае дваіх маладзечанцаў, і адзін з іх, Турчыновіч, галавою падразае мяч у правую "дзявятку".

2:0. **Рагуновіч** робіць падачу з правага боку сярэдзіны поля ў цэнтр штрафной – набягае Міхалёў і галавою накіроўвае мяч у тую ж самую правую "дзявятку". Гэты гол залічаны статыстыкамі як 5000-ы ў чэмпіянатах беларускай першай лігі.

3:1. Крывіцкі падхоплівае мяч на левым фланзе ў сярэдзіне поля, змяшчаецца ў цэнтр, гуляе ў "сценку" з Міхалёвым і з лініі штрафной паражае вароты. Бліскучая хуткая камбінацыя, якая прыняла ў захапленне нават **Людаса Румбуціса**.

4:1. Чарговы далёкі ўкід аўта Крывіцкім злева – на блізкай штанзе **Шаўроў** галавою пераадрасоўвае мяч у цэнтр, дзе ў Міхалёва ёсць час прыняць "плямістага" на грудзі, скінуць у ногі і расстраляць варатара.

5:1. Да падачы Рагуновіча справа не дацягваецца Шаўроў. Арбітр палічыў, што яго трымалі і прызначае пенальці, які рэалізоўвае сам Павел прыгожым дакладным ударам у правы бок пад перакладзіну.

6:1. Чарговая падача Рагуновіча справа – Шаўроў без перашкод б'е галавою з лініі варатарскай.

– "Высшая лига!" "Людас Румбутис!" – скандзіравалі фанаты на чысцінскім стадыёне.

Дарэчы, хлопцы бываюць на ўсіх дамашніх матчах каманды. Перад гульнёй і пасля яе пешшу расцягваюцца ручайкамі ад Чысці да Краснага ўздоўж Ракуцёўшчыны.

Невялікая размова з Паўлам Шаўровым:

– Прыміце віншаванні з перамогай, з двума забітымі галамі! Выкарыстоўваючы свой рост (194 см – **С. Г.**), другі мяч вы забівалі галавою, ды і ў сітуацыі, што прывяла да пенальці, сапернікі парушалі правілы, не даючы вам магчымасць адгукнуцца на верхавую перадачу. Хаця, здаецца, нельга сказаць, што большасць сваіх галоў ствараеце на другім паверсе?

– Так, для мяне няма розніцы, як забіваць. Аднолькава магу гэта рабіць і нагою, і галавою.

– Прычым пенальці рэалізавалі класна, дакладна пад самую перакладзіну, далёка ўбок ад галкіпера.

– Згодны. Самому спадабалася.

– Да тэмы галоў. Са сваіх 75 у вышэйшай лізе (статыстычная даведка: больш – 97 – цяпер мае толькі тарпедамазавец **Яромка**, а ў **Вяжэвіча** цяпер чацверты паказчык – 71) ажно 10 вы забілі маладзечанцам. Ці можна паразважаць на тэму, чаму атрымліваецца ў нападаючага часта забіваць адной і той жа камандзе?

– Тут не да разважанняў. Проста так складваецца, у забіўных форвардаў бываюць такія каманды, супраць якіх гуляць лёгка, а з іншымі вельмі складана. Напрыклад, мне надта не шанцавала ў матчах з віцяблянамі, а супраць "Маладзечна" шмат што ўдавалася.

– Асабліва ў сярэдзіне дзевяностых у складзе "Дынама-93". Дарэчы, нагадаем чытачам, што перад распадам каманды вы там працавалі з Людасам Румбуцісам. Потым перайшлі ў "Шахцёр" да **Івана Шчокіна**. Раскажыце, калі ласка, перадгісторыю сёлетняга з'яўлення ў "Маладзечне".

– Летась у мяне была траўма спіны (дзве міжпазванковыя грыжы), але ўвосень ужо зноў гуляў. Лічу, пры Шчокіне я застаўся б у камандзе. Аднак пасля яго трагічнай гібелі зімою ўзнік канфлікт з новым настаўнікам **Мікалаем Касцюкевічам**. Гэта, на мой погляд, не надта дасведчаны спецыяліст, я такіх не разумею. Таму пайшоў з каманды і папрасіўся да Людаса Румбуціса ў "Маладзечна".

**– Колькі словаў пра тое, якім вы бачыце далейшы працяг сваёй кар'еры? Альбо: ці застанецеся тут, прынамсі, да заканчэння бягучага сезона?**

– Пакуль не ведаю, нічога не магу сказаць. Пакуль я гуляю за "Маладзечна".

**– На развітанне тры пытанні пра цяперашні чэмпіянат Еўропы. За якую зборную хварэеце? Хто рэальна можа стаць пераможцам? Які нападаючы найбольш падабаецца на гэтым чэмпіянаце?**

– Хварэю за партугальцаў. Яны прыгожа гуляюць. Цяжка прадказваць, хто выйграе чэмпіянат. Магчыма, французы альбо галандцы. Мне даспадобы вялікія (габарытныя) нападаючыя тараннага тыпу. Прыемна глядзець на чэха **Колера**, немца **Бірхафа**. На жаль, зборная першага ўжо выбывае з барацьбы, а другі "зламаўся".

**– Дзякуй за гутарку. Поспехаў вам і ў далейшым.**

Трактар – ЗЛіН 0:0, Палессе – Орша 2:4, Дынама-Юні – Керамік 2:0, Свіслач-Дах – Хімік 1:0, Лунінец – Граніт 3:1, Тарпеда – Зорка-ВА-БДУ 1:1, Рагачоў – Нёман 5:3.

**ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА**

| КАМАНДА | АЧКІ |
|---|---|
| 1. ФК «МАЛАДЗЕЧНА» | 24 |
| 2. Лунінец | 21 |
| 3. Граніт | 19 |
| 4. Рагачоў-ДЮСШ-1 | 19 |
| 5. Тарпеда | 19 |
| 6. Орша | 18 |
| 7. Свіслач-Дах | 17 |
| 8. Керамік | 15 |
| 9. Дынама-Юні | 14 |
| 10. Нёман | 13 |
| 11. Зорка-ВА-БДУ | 12 |
| 12. Трактар | 11 |
| 13. ЗЛіН | 7 |
| 14. Хімік | 5 |
| 15. Вейна-Днепр | 2 |
| 16. Палессе | 1 |

Бабардзіры: Правалінскі (Орша) – 7, **Міхалёў**, Шушкевіч (Зорка-ВА-БДУ), Кошаль (Тарпеда), Вадз. Байко – па 6; **Турчыновіч** і іншыя – па 5.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Конкурсы*

## Футбольная віктарына

***Правільныя адказы на пытанні 1 тура***

1. Эдуард Малафееў

а) Дынама (Мінск)

б) чэмпіянат свету праходзіў у Англіі, у 1966 годзе

в) ён згуляў 5 матчаў, забіў 2 галы

г) "пацярпела" зборная КНДР на 31 і 88 хвілінах

д) зборная СССР заняла 4 месца і атрымала бронзавыя медалі.

2. Званне "Заслужаны майстар спорту" Эдуард Малафееў атрымаў у 1967 годзе за заслугі перад савецкім футболам.

3. Афіцыйна Эдуард Малафееў правёў 40 гульняў і забіў 6 галоў. Некаторыя даведнікі даюць лічбу 41 – тут улічваецца гульня алімпійскіх зборных СССР і Чэхаславакіі ў чэрвені 1968 года, якая потым не ўвайшла ў афіцыйны спіс матчаў зборнай СССР.

Па выніках 1 тура тры ўдзельнікі набралі максімальную колькасць балаў – па 14. Гэта Яўген Вярбіцкі з Вілейкі, Васіль Канопскі з Маладзечна і Мікалай Кіндра са Смаргоні. Апошні прызнаны маральным пераможцам па выніках тура за больш поўныя і дакладныя адказы.

***2 тур. Чэмпіянат Еўропы***

1. Хто з беларускіх гульцоў дамогся найвышэйшых поспехаў на чэмпіянатах Еўропы па футболе? (3 ачкі)

а) за які клуб ён выступаў (гульцы)?

б) дзе і калі праходзіў чэмпіянат Еўропы?

в) колькі там гулец правёў матчаў і забіў галоў?

г) якім камандам і на якой хвіліне ён забіваў мячы?

д) што за прыз атрымаў беларускі футбаліст?

е) якое месца заняла тая зборная і што яна за гэта атрымала?

За правільны адказ на кожнае дадатковае пытанне вы атрымаеце па 1 ачку.

2. Якія званні атрымалі беларускія гульцы за выступленне на гэтым чэмпіянаце Еўропы? (3 ачкі)

Адказы прымаюцца да 3 ліпеня (па паштовым штэмпелі)

*Аляксандр БЯЛЯЕЎ.*

*Анонс*

**24.06 Хімік (Светлагорск) – Маладзечна**

**25.06 16-00 Смаргонь – Азерцы (Глыбокае)**

+0=2-0 1-1. Летась 1:1 дома і 0:0 на выездзе

**25.06 РВАР (Мінск) – Забудова**

+2=1-1 3-1. Летась 1:0 дома і 2:0 на выездзе

*Кубак краіны*

## У Смаргонь прыедуць брастаўчане, а ў Чысць "Нафтан-Дэвон"

Прапануем вынікі астатніх матчаў (пра выступленне нашых землякоў "РГ" расказала ў мінулым нумары) 1/32 Кубка, у якіх каманды другой лігі прымалі сапернікаў з першай.

Баранавічы – Нёман 2:1 ("залаты" гол), Арбіта – Зорка-ВА-БДУ 0:1, Азерцы – Орша 3:1, Пружаны – Граніт 1:2 ("залаты" гол), Старыя Дарогі – Рагачоў 0:1, Ніва (Жыткавічы) – Тарпеда 2:4, Вертыкаль (Калінкавічы) – Палессе 2:0, Водаканал-Транзіт (Брэст) – Свіслач-Дах 2:1 ("залаты" гол), Дарыда – Лунінец 1:0, Пінск-900 – Трактар +:- (няяўка гасцей).

Прайшла жараб'ёўка пар 1/16 фінала. 12 ліпеня ў госці да пераможцаў 1/16 прыедуць каманды вышэйшай лігі. Смаргонцы сустрэнуцца з брэсцкім "Дынама", якое сёлета пасля ўходу лідэраў **Рамана Васілюка** і **Андрэя Разіна** знаходзіцца ў крызісе і пакуль займае перадапошняе месца. Чысцінцы чакаюць навапалацкі "Нафтан-Дэвон". Ён, як звычайна, знаходзіцца ў ніжняй палове (цяпер на 11 месцы) турнірнай табліцы. Відавочна, **Віталю Казяку** будзе што даказаць тамтэйшым трэнерам.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Футбол–прагноз*

## У чэмпіянаце краіны маладзечанцы сталі сёмымі

Завяршыўся чэмпіянат СФЛБ (другі чэмпіянат сярод зборных аматарскіх цэнтраў).

Вось яго вынікі.

| | Г | Пм | Н | Пж | Р/М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. ЛФГСШ (Мінскі раён) | 20 | 13 | 1 | 6 | 65:50 | 40 |
| 2. ШЛФП (Шчучын) | 20 | 11 | 2 | 7 | 70:53 | 35 |
| 3. Заходні Буг (Брэст) | 20 | 11 | 2 | 7 | 65:49 | 35 |
| 4. ВЛФП (Віцебск) | 20 | 10 | 5 | 5 | 59:53 | 35 |
| 5. ЛФП БНП Палімір (Наваполацк) | 20 | 11 | 2 | 7 | 68:69 | 35 |
| 6. НПЛФП (Наваполацк) | 20 | 8 | 4 | 8 | 59:48 | 28 |
| 7. МЛФП (Маладзечна) | 20 | 9 | 1 | 10 | 63:58 | 28 |
| 8. ПГС-235 (Брэст) | 20 | 9 | 1 | 10 | 56:64 | 28 |
| 9. ЦФП Малінаўка (Мінск) | 20 | 7 | 2 | 11 | 56:68 | 23 |
| 10. КАФ "Альбіён" (Жлобін) | 20 | 6 | 2 | 12 | 46:71 | 20 |
| 11. FLR (Шчучынскі раён) | 20 | 3 | 2 | 15 | 48:72 | 11 |

Усе каманды былі разбітыя па ходзе другога круга на 3 групы: лідэраў, сераднякоў і аўтсайдэраў. Зборная нашай Лігі згубіла адно месца (у параўнанні з вынікамі першага тура). Гуляла зборная стабільна, на сваім узроўні, не пашанцавала толькі ў матчы супраць FLR, там была нічыя.

У гэтым чэмпіянаце пры роўнасці ачкоў разглядалася розніца мячоў (па "стандартных" правілах зборная МЛФП заняла б 6 месца).

Застаецца цешыцца тым, што наш **Сяргей Ярук** стаў лепшым бамбардзірам турніру (14 мячоў у 19 гульнях) і выйграў па паказчыку +/-, у яго паказчык стаяў "+11" (14 забітых мячоў і 3 прапушчаныя).

А наогул, зборная зрабіла крок назад (у першым чэмпіянаце яна была чацвертая).

*Юрый КАРПІЦКІ.*

*Другая ліга*

## Мінск мацнейшы за правінцыю

**17.06 Дынама-2 (Мінск) – Смаргонь 2:1 (0:1)**

Галы: (52), (54); Карабінскі (27).

Склад: Ан. Канапелька, Ал. Канапелька, Шагойка, В. Курак, Юркевіч, Максіменка (Д. Курак, 46), Дукса (Васілеўскі, 60), Якубіцкі (Апяцёнак, 81), Дзігілевіч, Карабінскі (Відук, 46), Селіванаў.

Напэўна, смаргонцы выпусцілі перамогу. Цалкам перайгралі саперніка ў першым тайме, стварылі з дзесятак галявых момантаў, аднак не шанцавала **Карабінскаму**, **Селіванаву** (ён цяпер нападаючы, а апошнім абаронцам гуляе **Шагойка**), **Дуксу**. Забілі толькі аднойчы. **Максіменка** зрабіў навес з правага фланга, на левым баку штрафной мяч прыняў Дукса і адпасаваў на лінію варатарскай, дзе Селіванаў дасціпна прапусціў мяч, а Карабінскі, які набягаў, замкнуў далёкую штангу.

У перапынку трэнеры замянілі стомленых шчыльным гульнявым графікам маладых Максіменку і Карабінскага і выпусцілі нападаючых **Д. Курака** і **Відука** з мэтай узмацніць атаку і павялічыць перавагу ў ліку. Відаць, гэта было памылкай. Забіць так і не ўдалося, а вось мінчане напачатку тайма правялі дзве галявыя контратакі.

**17.06 Забудова – Акадэм-Славія (Мінск) 0:2 (0:2)**

Галы: (9), (28-пен).

Склад: Мароз (Буглак, 46), Рыгаровіч (Татун, 65), Гулевіч, Балыкін, Івашкевіч, Д. Мятліцкі (Антановіч, 46), Садчанка (Нядзелька, 73), Касцюкевіч, Дараховіч, Казяк, М. Мятліцкі (Макрыцкі, 46).

Пры роўнай гульні ў першым тайме гасцям удалося скарыстаць свае галявыя шанцы. Спачатку пас у штрафную знайшоў непрыкрытага нападаючага, які абыграў абаронцу і проста прабіў у вароты. Потым у атацы чысцінцаў ні **Івашкевіч**, ні **Дараховіч** не рашыліся прабіць, затое страцілі мяч, які сапернікі адразу ж накіравалі на кут штрафной гаспадароў, дзе **Мароз**, які неразважліва пакінуў вароты, збіў мінчаніна. Далей быў пенальці.

Ужо на 2–й хвіліне другога тайма "Забудова" абавязаная была скараціць розніцу ў ліку, але ўдар ва ўпор галавою **Балыкіна** парыраваў галкіпер, **Казяк** дабіў мяч у штангу, а **Гулевіч** – вышэй варот. Калі не рэалізоўваць такія сітуацыі, то невядома, якія яшчэ галявыя моманты патрэбны камандзе.

У далейшым дакладны ўдар **Антановіча** са штрафнога пад перакладзіну выцягнуў варатар; у контратацы Казяк галавою не прабіў па варотах, а недакладна адкінуў мяч партнёру; Гулевіч не здолеў замкнуць далёкую штангу; **Макрыцкі** з падачы Казяка дрэнна падставіў галаву пад мяч, які, бадай, і сам заляцеў бы ў вароты; Казяк праціснуўся ў штрафную злева, але момант вострага працягу не меў.

Забілі, між іншым, на апошніх хвілінах госці. Праўда, быў зафіксаваны афсайд.

Лакаматыў – Старыя Дарогі 3:1, Верас – РВАР 1:0, Азерцы – Арбіта 0:4, РШВСМ-Алімпія – Дарыда 0:1, РВАР – РШВСМ-Алімпія 0:3.

| | |
|---|---|
| 1. Дарыда | 18 |
| 2. Акадэм-Славія | 16 |
| 3. Верас | 13 |
| 4. Лакаматыў | 13 |
| 5. РШВСМ-Алімпія | 13 |
| 6. Дынама-2 | 12 |
| 7. Азерцы | 11 |
| 8. Арбіта | 11 |
| 9. Старыя Дарогі (-1) | 10 |
| 10. Смаргонь (-1) | 9 |
| 11. Забудова | 2 |
| 12. РВАР (-2) | 0 |

Бамбардзіры: Карасёў (Лакаматыў) – 6.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*



 

